www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 35 (3776)

3 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Міласць Божая творыць цуды ў нашай роднай Беларусі

*(З Пасхальнага паслання Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта)*



Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі
і ўсе верныя дзеці
Беларускай Праваслаўнай Царквы!
Хрыстос уваскрос!

Сіла гэтага самага радаснага пасхальнага прывітання зноў азарае нашы сэрцы. Усяго два словы — але колькі ў іх сэнсу і глыбіні! Нікольні не перабольшваючы, мы можам сказаць, што ў іх выяўлена сутнасць усяго Евангельскага вучэння. Яны — кароткі сімвал нашай веры, што вынікае са слоў апостала Паўла, які гаворыць нам: Калі Хрыстос не ўваскрос, то марная і пропаведзь наша, марная і вера ваша, — а потым дадае: Але Хрыстос уваскрос з мёртвых, першынец з памерлых (1 Кар. 15: 14, 20).

Уся наша вера, надзея і любоў — у словах "Хрыстос уваскрос!". Яны скрозь стагоддзі яўляюць нам, па слову Апостала, прамудрасць Божую, у тайне скрытую, якую прадвызначыў Бог перад вякамі дзеля славы нашай (1 Кар. 2: 7).

Вобраз Уваскрослага Збаўцы абавязкова адсылае нас да неабходнасці задумацца над тым, ці выявіла сябе перамога Хрыста ў нашым асабістым жыцці? Ці ўваскрос Хрыстос у нашай душы, і ці паўсталі мы разам з Ім у сваім сэрцы?

Мы часта скардзімся на недасканаласць навакольнага свету. Але перамена гэтага свету да лепшага не можа адбыцца раней, чым мы самі паспрабуем зрабіць яго лепшым, пачаўшы з саміх сябе. І ў Хрысце мы маем рэальную магчымасць перамяніць сваё жыццё. Толькі ад нас залежыць, ці захочам мы ўстаць на барацьбу за сваю душу, за нашы сем'і, за наш народ — а ці дазволім нашаму жыццю паступова ператварацца ў пекла.

Гасподзь усё даў нам для таго, каб мы сталі спадкаемцамі Яго перамогі. Мужайцеся: Я перамог свет (Ін. 16: 33), — гаворыць Ён. Гэты заклік звернуты не толькі да апосталаў. Ён звернуты і да нас з вамі, жыхароў сучаснай Беларусі. Царква створана Богам для таго, каб усе мы маглі чэрпаць з Яе сілы на шляху да богазапаведанага свету. Нам дадзены Таінствы Споведзі і Прычасця, звяртаючыся да якіх, мы задаём рытм духоўнага жыцця, рытм перамогі над грахом.

Міласць Божая творыць цуды ў нашай роднай Беларусі, уваскрашаючы душы людзей, вырываючы іх з путаў роспачы і граху, бязвер'я і нянавісці. Але галоўная радасць нашага жыцця — Царква Хрыстова. Я веру, што, пакуль беларусы будуць захоўваць у сваёй свядомасці паняцце пра святасць Царквы, Бог не пакіне нас.

Узлюбленыя ў Госпадзе дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы, прашу вас: веруйце ў Бога і захоўвайце вернасць роднай зямлі. У нас багатая і слаўная гісторыя — нам ёсць за што дзякаваць Богу! Сёлета народы Беларусі, Украіны і Расіі адзначаюць 1025-ю гадавіну Хрышчэння Русі.

Гісторыя святасці — гэта крыніца надзеі, апора для руху ў будучыню і ўмова нашага адзінства. Людзі адрозніваюцца па здольнасцях, сілах і інтарэсах. Але калі ў сэрцах нашых прысутнічае любоў да бліжняга і да Айчыны, то нашы адрозненні становяцца падобнымі да кветак на лузе. Яны выяўляюць прыгажосць агульнага, прыгажосць беларусаў як нацыі.

Я вітаю з Пасхай Хрыстовай нашых суайчыннікаў, якія знаходзяцца за межамі Радзімы. Ваша памяць пра Беларусь і яе Царкву, ваша праца і малітвы вельмі важныя для нас.

Дарагія мае! Будзьце пераймальнікамі Бога... і жывіце ў любові, як Хрыстос узлюбіў нас (Эф. 5: 2). Нясіце радасць пра Уваскрослага Госпада ў навакольны свет: у сем'і, да суседзяў, сваякоў і калег. Не бойцеся цяжкасцяў жыцця веку гэтага, але перамагайце іх сілаю любові і малітвы, бесперапынна памятаючы пра тое, што ХРЫСТОС УВАСКРОС! — Сапраўды ўваскрос Хрыстос! Амінь!

НАБАЛЕЛАЕ

## «Вызваліце іх!»

"Проста вызваліце іх!" — гэты заклік, адрасаваны Аляксандру Лукашэнку, займае ўсю першую паласу газеты "Наша Ніва".

Журналісты налічылі 182 асобы, якія за 1995—2013 гады ў Беларусі трапілі пад крымінальны пераслед за палітыку. З іх 63 — у 2009—2013 гадах. Каля 6000 чалавек — такая лічба адміністрацыйна пакараных і звольненых з працы, вучобы па палітычна матываваных справах за 1995—2013 гады.

Цікава, што са сваім заклікам вызваліць палтвязняў выступіў і галоўны рэдактар часопіса Адміністрацыі прэзідэнта "Беларуская думка" Вадзім Гігін. Нічога добрага пра вязняў ён, зразумела, не сказаў. Але ж...

*"А наогул, адкінем усякую фармальную логіку. У палітыцы часам інтуіцыя значыць куды больш. Ведаеце, палітычныя мэты, памкненні гэтых людзей бязмерна далёкія ад мяне, непрымальныя, нават абрыдлі. Але вось да іх саміх я не адчуваю ні нянавісці, ні варожасці. Шчыра кажучы, калі б пытанне аб тым, сядзець ім далей ці выйсці на свабоду, вырашалася шляхам экспертнага апытання, то я б, трохі падумаўшы, прапанаваў адпусціць іх на ўсе чатыры бакі",* — напісаў Гігін у сваім блогу на сайце дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА.

Нагадаем, што не аднойчы пра неабходнасць вызвалення палітвязняў пісала і "Народная Воля". І так хочацца верыць, што на Вялікдзень з Божай дапамогай цуд усё-такі здарыцца.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ...

## Што змянілася з 1 мая?

### Узрос бюджэт пражытачнага мінімуму

Новы БПМ павысіўся на 5,4% да папярэдняга нарматыву і зараз для працаздольнага насельніцтва складае 1 мільён 74 тысячы 680 рублёў. Для пенсіянераў — усяго 803 тысячы 370 рублёў, для дзяцей ва ўзросце да трох гадоў — 846 тысяч 110, для студэнтаў — 975 тысяч рублёў.

Адпаведна, з мая павялічацца памеры працоўных мінімальных і сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі і павышэнні, устаноўленыя да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў.

### Новы памер дапамогі на дзяцей

Па даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэднямесячная заработная плата работнікаў за першы квартал гэтага года склала 4 мільёны 531 тысячу рублёў, і ў сувязі з гэтым будзе зменены памер дапамогі на дзяцей, які зараз залежыць менавіта ад сярэдняга заробку.

У маі—ліпені памер штомесячнай дапамогі па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў складзе:

— на першае дзіця — 1 мільён 585 тысяч 870 рублёў,

— на другое і наступных дзяцей — 1 мільён 812 тысяч 430 рублёў,

— на дзіця-інваліда ва ўзросце да трох гадоў — 2 мільёны 38 тысяч 980 рублёў.

### Ці будзе мяса?

З 1 мая набылі моц новыя правілы забою жывёл для продажу.

Згодна з новымі санітарна-ветэрынарнымі правіламі, забой жывёл з асабістых падсобных гаспадарак павінен ажыццяўляцца ў спецыялізаваных арганізацыях. Новаўвядзенне выклікала незадаволенасць гаспадароў жывёл, на якіх цяпер кладуцца дадатковыя выдаткі на транспарціроўку жывёлы да бойні і забой. І пакупнікі, і прадаўцы чакаюць росту коштаў на мяса.

### Свята пенсіянераў

З 1 мая па 30 верасня Беларуская чыгунка дае пенсіянерам зніжку ў памеры 50 працэнтаў пры набыцці білетаў на цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа.

Дарэчы, "маладыя" пенсіянеры такога права мець не будуць. Толькі тыя, хто дасягнуў прынятага ў краіне пенсіённага ўзросту: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў. Таксама рашэнне аб зніжэнні коштаў не распаўсюджваецца на праезд у электрацягніках рэгіянальных ліній бізнес-класа, асаблівасцю якіх з'яўляюцца ў тым ліку нумараваныя месцы.

Прэс-служба Беларускай чыгункі адзначае, што для набыцця льготных праязных дакументаў грамадзянам неабходна прад'яўляць не копіі, а арыгіналы пенсіённых пасведчанняў.

НАДВОР'Е

## *Даўно не было дажджу? Будзе!*

*У бліжэйшыя дні ў Беларусі будзе дажджлівае надвор'е.*

"Пры гэтым на паўднёвым усходзе краіны будзе субтрапічнае цяпло з кароткачасовымі дажджамі і навальніцамі, — расказала прадстаўнік Гідраметэацэнтра **Ларыса Санковіч,** — а на астатняй частцы — больш халаднаватае надвор'е з шчыльнай воблачнасцю і працяглымі зацяжнымі дажджамі".

У пятніцу, 3 мая, ноччу месцамі па паўднёвым захадзе краіны, днём у многіх раёнах пройдуць працяглыя моцныя дажджы. У паўднёвай палове Беларусі прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра складзецца ў дыяпазоне ад 4 да 9 градусаў ноччу і 10—16 градусаў днём. Цяплей будзе толькі па паўднёвым усходзе краіны, дзе паветра прагрэецца да плюс 23 градусаў.

У суботу захаваецца няўстойлівае і дажджлівае надвор'е. Месцамі пройдуць моцныя дажджы, прагрымяць навальніцы, днём прагназуецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 7—14 градусаў. Днём па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да 10—13 градусаў, па паўднёвым усходзе — да плюс 24—26 градусаў.

У нядзелю, на Вялікдзень, аблокі паступова пачнуць рассейвацца, значна паменшыцца колькасць ападкаў. Хаця месцамі па краіне пройдуць кароткачасовыя дажджы, днём магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ўначы будзе вар'іравацца ў дыяпазоне ад 7 да 14 градусаў вышэй за нуль, днём паветра прагрэецца да 15—20 градусаў, цяплей будзе па поўдні — да 23 градусаў вышэй за нуль.

Сіноптыкі адзначаюць, што ў цэлым па краіне ўсталюецца надвор'е, блізкае да кліматычнай нормы, якая характэрна для першага тыдня мая.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Шарашка

**Нас спасет только коррупция. Не спешите возмущаться по поводу столь парадоксального утверждения. Уверена, что, прочитав эту колонку, вы со мной согласитесь.**

**Белорусская АЭС… Александр Лукашенко на днях заявил, что одной атомной станции нашей стране будет мало, нужна вторая… А еще говорил, что наша АЭС будет самая-самая — самая безопасная, самая современная, самая защищенная, самая быстро построенная…**

**Но что главное в АЭС? Правильно, реактор.**

**Специалисты много рассказывают, что он необыкновенный: какого-то поколения "три плюс", которому не страшны ни взрывы, ни землетрясения, ни падения самолета, что он будет в глубокоэшелонированной защите и ни один радионуклид из нее не вырвется… Красиво говорят — заслушаешься!**

**Правда, точно такие реакторы еще нигде не работают и никак себя не зарекомендовали. И очень тревожно от понимания того, что именно на нас хотят проверить, насколько расчеты российских атомщиков и их реклама собственной разработки соответствуют действительности. Но сейчас выясняется, что эксперимент запланирован даже более масштабный, чем мы предполагаем.**

**Всем, видимо, известно, что АЭС нам строят россияне. Но не все знают, что в СССР реакторы для атомных станций производили только два предприятия — "Атоммаш" в Волгодонске и "Ижорские заводы".**

**"Атоммаш" — это история банкротства. В прямом смысле этого слова. После развала СССР предприятие осталось без заказов, набрало кредитов, накопило долги и логично громыхнулось в экономическую яму. В результате имущество распродавали за бесценок, цеха и технологическое оборудование передавали различным фирмам, фирмочкам и товариществам с ограниченной ответственностью, на обломках былого гиганта советской атомной энергетики образовывались какие-то ЗАО, ОАО, ООО. Потом и они распадались, а на их месте появлялись новые.**

**Остатки производств, которые удалось сохранить, фактически поменяли профиль. В Волгодонске начали заниматься производством оборудования для нефтяной, газовой, металлургической промышленности, однако чуда не случилось, мертвец не ожил. Можете представить, во что превратился былой гигант, если в 1989 году здесь работала 21 тысяча человек, а в 2012-м — менее трех тысяч.**

**Не многим может похвастаться и атомное производство в Ижоре. После развала СССР оно не процветало, брались за любые, даже невыгодные, заказы. Однако благодаря им производство все-таки удалось сохранить. Был сделан реактор для иранской АЭС „Бушер", потом два реактора для китайской АЭС „Тяньвань", потом еще два — для индийской АЭС „Куданкулам", потом пошли и собственно российские заказы…**

**И вот свою АЭС решила строить Беларусь. Поскольку собственных денег у нас нет, Россия на 90% финансирует этот проект (кредит, естественно, придется отдавать), и российская же компания ЗАО "Атомстройэкспорт" получает карт-бланш на это строительство. Пока мы тут разбираемся, правильно роют котлован или неправильно, есть проектная документация или ее нет, какая зарплата у строителей и удобные ли у них квартиры, в Москве вершатся куда более важные дела. Российское ОАО "Атомкомплект" по заказу ЗАО "Атомстройэкспорт" уже провело тендер на изготовление и поставку реакторов на Белорусскую АЭС. В конкурсе участвовали вышеупомянутые заводы — и ижорский, и волгодонский. И как вы думаете, кто выиграл?**

**Не упадите со стула! Победителем объявлен Волгодонск. Точнее, ЗАО "АЭМ-технологии". А еще точнее — его дочерняя компания ОАО "Атомэнергомаш", только в конце прошлого года создавшая на остатках "Атоммаша" свой филиал. Правда, компания намерена выполнить белорусский заказ, задействовав и другие свои производственные активы. А именно: машиностроительный завод "ЗиО-Подольск", который вообще-то специализируется на производстве паровых котлов, а также завод "Петрозаводскмаш" — это известный поставщик оборудования для целлюлозно-бумажной промышленности. Каждое из этих предприятий, видимо, может сделать какую-нибудь "запчасть" и для атомного реактора: например, корпуса к чему-нибудь, кольца, втулки и т.п. Но совершенно непонятно, кто сделает реактор? Вернее даже два, поскольку на Белорусской АЭС запланированы два энергоблока?**

**"Оборудование будет изготовлено Волгодонским филиалом "АЭМ-технологии" — крупнейшим заводом атомного машиностроения в России и одним из крупнейших в мире", — радостно передает сайт компании слова генерального директора ОАО "Атомэнергомаш" Андрея Никипелова.**

**А уж как должны быть "рады" мы! Ведь господин Никипелов просто забыл упомянуть, что ко всем произнесенным им эпитетам со словом "самый" надо добавлять важное уточнение — "в прошлом".**

**Вот что о в прошлом известном предприятии сообщают жители Волгодонска. *"Давеча (24 октября 2012 года) по долгу службы пришлось посетить расколотый последними событиями "Атоммаш"… Для людей из города сообщать не надо, что предприятие работало на последнем дыхании, зарплаты не платятся по три и более месяцев. Не говоря уже о набравшем колоссальные обороты воровстве. Меня лично интересовали станки на продажу, так называемые неликвиды или списанное оборудование. Их я просмотрел два огромных цеха. Зрелище потрясающее. Туча различных станков 1970—1980-х годов, которые составлены на огромной территории плотненькими рядами, так что в некоторых местах мы еле пролазили. Все станки давно без электрооборудования, "головы" (механическая часть) у всех вскрыты — у кого-то явно, у кого-то аккуратно. Беспардонное воровство дефицитных запчастей. Этот склад мертвого оборудования мог бы работать до сегодняшних дней, если бы его обслуживали а не использовали более старые станки как доноры для новых в лучшем случае, а в худшем — продавая на сторону".***

**Эту свою запись в интернете Сергей из Волгодонска сопроводил фотографиями. "Хлам!" — вот все, что можно сказать, глядя на эти фото.**

**И вот это предприятие, которое на протяжении последних лет банкротилось и передавалось из рук в руки, на котором месяцами не платили зарплату и просто не могли удержать специалистов, предприятие, еще полгода назад, по свидетельству очевидцев, представлявшее собой "склад мертвого оборудования", будет изготавливать реакторы для Белорусской АЭС?!**

**Это кажется каким-то жестоким, нелепым, неправдоподобным розыгрышем. Но это правда.**

**И ведь как странно получается. По поводу Березовской ГРЭС, где заплатили за турбину российской фирме, говорят, уголовное дело завели, КГБ подключился… А в это самое время непонятно кому отдан контракт, ставящий под угрозу жизнь и здоровье и белорусов, и наших соседей. Контракт — на миллиарды долларов! И все тихо-мирно-здорово.**

**На этом призраке былого величия из Волгодонска настоящие специалисты есть? Оборудование какое-нибудь осталось? Кто-нибудь поинтересовался его финансовой состоятельностью? Завтра это предприятие будет существовать или его передадут новым собственникам под производство кастрюль?**

**Почему, когда проводился тендер на право изготовления реактора для второго энергоблока АЭС в Калининграде (она задумана как аналог Белорусской АЭС), волгодонцев даже к конкурсу не допустили? Зато братьям-белорусам нашли "отличного поставщика"!**

**Впрочем, деньги в этой истории даже не самое главное. Лучше пусть их просто своруют, как случалось не раз. Пусть раздербанят эти 10—12 миллиардов долларов, пусть задушатся ими, пусть едят их, пусть на них молятся. Да, тогда мы останемся и без АЭС, и в долгах. Но хотя бы живы.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Что делать, если тошнит от работы?



*Устали от конфликтов на рабочем месте?*

*Не получается произвести хорошее впечатление на собеседованиях, от когда-то любимой работы просто воротит, а с коллегами не получается жить в мире?*

*Как справиться с подобными проблемами, читателям "Народной Воли" подскажет психолог, представитель компании "Психолог и Я"* ***Андрей Трембицкий.***

***«Прямая линия» пройдет сегодня, 3 мая, с 14.00 до 15.00.***

*Задать вопросы психологу можно будет по телефону **(0172) 328-68-41**. Заранее вопросы можно присылать на электронный адрес: nv@promedia.by (с пометкой "Прямая линия").*

АТОМГРАД, 2012 ГОД. БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ



Народная Воля
http://www.nv-online.info
3 МАЯ 2013 г.

СУД

# Кому-то неймется разворошить осиное гнездо

*"Чернобыльский Шлях-2013" не стал многочисленной и знаковой акцией. И забылся бы на следующий день. Но правоохранительные органы обеспечили ему резонанс своими странными действиями.*

Несмотря на то что мероприятие было санкционировано Мингорисполкомом и проходило без каких-либо эксцессов, милиция задержала около десяти человек, в том числе журналистов. Шестеро из задержанных получили административные сроки от трех до десяти суток.

Причины задержания назывались самые нелепые. Так, двоих корреспондентов "Радио Рация", Александра Ярошевича и Геннадия Барбарича, задержали на улице Козлова, возле магазина "Океан" за то, что они... перешептывались. Чем вызвали серьезное подозрение у сотрудников милиции в штатском. "Это еще хорошо, что они не перемигивались, а то бы не отделались так легко", — шутили в коридорах суда Советского района, когда журналистов приговорили к трем суткам ареста. Наблюдатель-правозащитник Вячеслав Дашкевич заплатил пятью сутками свободы за то, что вечером 26 апреля пришел в РУВД Советского района, чтобы поинтересоваться судьбой задержанных.

Как проходили эти суды, я смог убедиться на административном процессе по делу Игоря Трухановича, участника "Чернобыльского Шляха", задержанного вечером 26 апреля на улице Богдановича. Он обвинялся сразу по двум статьям КоАП (23.34 и 23.4): за "нарушения порядка организации или проведения массовых мероприятий" и "неповиновение законному требованию должностного лица".

Тому, кто прошел через административные суды в декабре 2010 года, организация этого процесса могла показаться невиданно либеральной. Начнем с того, что он длился более трех часов. На процессе присутствовал адвокат и свидетели защиты, а также все желающие, кому хватило места. Сидели на корточках, друг у друга на коленях. Да еще безнаказанно посмеивались, когда свидетели обвинения, сотрудники ОМОНа, путались в показаниях и выдавали какие-нибудь перлы. Ян Мельников, свидетель защиты, упорно называл сотрудников милиции в штатском, задержавших Игоря, "обычными бандитами". Он говорил по-белорусски, судья тоже старалась общаться с ним на белорусском. В перерывах подсудимый сидел на лавке вместе с друзьями, пил сок и ел сушки. Шумно беседовали, отпускали крамольные шутки по поводу происходящего. Охранявший его на почтительном расстоянии милиционер стоял молча и не пытался напомнить, что здесь очень серьезное, неуютное учреждение.

Судья задавала каверзные вопросы сотрудникам ОМОНа, казалось, сочувственно относилась к подсудимому. Атмосфера была такой, что все были уверены в благополучном исходе дела. "Конечно, оправдать они его не могут, — говорили друзья Игоря на крылечке. — Но дадут какой-нибудь минимальный штраф". Только вышло по-другому. Вся эта либерализация неожиданно закончилась десятью сутками ареста.

Присутствовавший на процессе молодой немецкий журналист, который попросил не называть его имени, боясь, что ему не дадут визу в следующий раз, сказал: "У меня такое ощущение, что они заранее, еще до суда, вынесли Игорю приговор".

И неудивительно, что у него возникло такое чувство. Поскольку показания милиционеров, Мельника и Алебовича, не имели ничего общего с обвинительной фабулой, которая звучала так: "На перекрестке улиц Сурганова и Богдановича Игорь Трухан (в другом месте он был назван Трухановым. — **Прим. авт.**) публично выступал перед собравшимися гражданами, выкрикивал речевки против государственного строя, после чего данные речевки повторяли все участники группы. Организованно руководил действиями указанной группы, выражая солидарность с годовщиной трагедии аварии на ЧАЭС. На замечания сотрудников милиции не реагировал".

Опустим сомнительную формулировку о "солидарности с годовщиной аварии", но в протоколе нигде не упоминалась разрешенная городскими властями акция, как раз этой аварии посвященная. Адвокату даже пришлось ходатайствовать о запросе в Мингорисполком, чтобы там подтвердили, что такая акция действительно проводилась в это время в этом месте. Судья ходатайство сначала отклонила, потом все же сделала такой запрос, но обвинение в проведении несанкционированной акции оставила в силе!

При этом оба свидетеля обвинения как будто напрочь забыли, что согласно протоколу Труханович был задержан за некое публичное выступление перед собравшимися на перекрестке улиц Сурганова и Богдановича гражданами, в связи с которым ему делались замечания сотрудниками милиции, а он на них не реагировал. Как оказалось в суде, особое внимание на Трухановича обратили когда он "перебегал проезжую часть в неположенном месте" со стороны площади Бангалор в сторону ресторана "Макдональдс". Судья Оксана Релява даже несколько опешила поначалу и специально переспросила, правильно ли она поняла, что на Трухановича обратили внимание именно в этот момент. Сотрудник ОМОНа Мельник ответил: "Ну да. Бежал человек через проезжую часть, кто-то кричал: задержите! Мы его остановили, попросили предъявить документы. Сказали, что сотрудники милиции, предъявили удостоверение. Он оттолкнул, начал вырываться... Призывать людей, мол, на помощь, убивают... Выражался нецензурной бранью, пытаясь оказать на сотрудников милиции моральное и физическое воздействие". Смех в зале вызвали слова его напарника, Алебовича: "Совершал хаотические маневры, был возбужден, вел себя неадекватно. Оттолкнул меня, Мельника. Настолько буйно себя вел, что граждане уже не знали, кому тут помогать". Друзья Игоря во время перерыва творчески расширили формулировку милиционера Алебовича: "Совершал хаотические маневры в составе дезорганизованной группы".

Адвокат в свою очередь отметил в заключительном слове: "Если Трухановича осудят, это создаст нездоровый прецедент. Гражданам нельзя будет передвигаться бегом, чтобы не навлечь на себя подозрений".

Но при чем тут вообще эти "хаотические маневры", когда речь шла о проведении несанкционированного мероприятия? Труханович прямо задал этот вопрос одному из свидетелей обвинения: "С чего вы взяли, что я был организатором несанкционированного мероприятия, если мероприятие, в котором я участвовал, было санкционированным?" Свидетель главную часть вопроса пропустил мимо ушей, объяснил только, почему он счел Игоря организатором: "А кто еще? Если человек кричит, а за ним народ повторяет..."

Как выяснилось, кричал он страшные вещи, за которые, вообще говоря, Уголовным кодексом предусмотрено куда более серьезное наказание, чем десять суток. По словам обоих свидетелей обвинения, Труханович "призывал к свержению власти". Но как именно он к этому призывал? "Я не могу точно процитировать, — говорит Мельник. — Ну, что так быть не должно, и все такое". У Алебовича, недаром он командир, память оказалась более крепкой: "Лучшее управление — это самоуправление, вот так кричали".

На это подсудимый язвительно заметил, что развитие местного самоуправления является одной из приоритетных задач государственной политики, которая определена президентом. И был совершенно прав. В минувшем году, обращаясь к сенаторам, Александр Лукашенко заявил буквально следующее: *"Не могу не сказать о ключевой теме — местном, или территориальном, самоуправлении. Думаю, нам пора здесь двинуться вперед. Ситуация в стране уже давно стабильная и управляемая. Наше общество достаточно повзрослело для того, чтобы развиваться дальше, в том числе и в плане стимулирования, поддержки местной инициативы граждан. По сути местное самоуправление — это и есть основа демократии".*

Плохо, видимо, проводится идеологическая работа среди сотрудников ОМОНа, если они не слышали о том, что самоуправление — это ни много ни мало основа демократии. "Я не вмешиваюсь в эти ваши дела, в политику, я говорю, как было", — бесхитростно ответил Алебович.

Но если они решили, что Труханович подрывает основы конституционного строя, призывая к развитию самоуправления, может, они попытались как-то его окоротить? Ведь эти призывы, как оказалось, они слышали задолго до места его задержания. Даже и не подумали. Свидетель Мельник, кажется, почуял неладное. Хотя сам он признал, что никаких замечаний не делал, насчет своего напарника добавил: "Не знаю, я мог отвернуться куда-нибудь, может, он делал". Когда показания будет давать Алебович, Мельник попытается что-то подсказать ему глазами, но тот тоже скажет, что никаких замечаний не делал.

Впрочем, Трухановича и не судили за призывы к свержению власти. Но ведь и не за то, что он перебегал дорогу в неположенном месте, не за нецензурную брань, а за "нарушения порядка организации или проведения массовых мероприятий". А каким образом он его нарушил — осталось совершенно непонятным.

Кроме того, что на это странное задержание и не менее странный суд, а также все остальные задержания и суды, были потрачены немалые государственные средства (и это в Год бережливости!), инцидент с Игорем Трухановичем привел к неожиданным побочным последствиям. Его задерживали сотрудники ОМОНа, одетые в гражданскую одежду. Игорь спросил на суде: "Кроме того, что вы сказали "милиция", как-то еще можно было идентифицировать вас как сотрудника милиции?" Мельник сослался на то, что у него была рация, а для пущей убедительности добавил: "Ну, вы могли... нам поверить".

Не поверил не только Игорь. Как рассказали после своего освобождения журналисты Ярошевич и Барбарич, наблюдавшие сцену задержания Трухановича, не поверила также простая женщина, которая шла домой с дачи, неся в руках ведро и строительный инструмент. Видя, как несколько дюжих мужиков насели на одного юношу, она бросилась на его защиту. И когда ее грубо оттолкнули, ударила обидчика ведром. (Вероятно, Мельника. У него в суде видна была на лбу гематома от удара. На видео, снятом журналистками "Нашей Нивы", можно заметить человека, заламывающего руки Трухановичу, у которого кровит лоб.) Женщину задержали и завели против нее уже уголовное дело. Теперь чья-то мать или бабушка может оказаться за решеткой только потому, что бросилась на помощь молодому человеку, не зная всех "тонкостей" нынешней работы милиции. Которая работает в штатском, задерживая людей по невразумительным причинам.

Хочется спросить у ответственных товарищей: может, хватит играть в такие опасные и бессмысленные игры? Словно кому-то неймется разворошить осиное гнездо...

**Дмитрий ГАЛКО.**

УВАГА!

## У аб'езд!

*Сталічны праспект Незалежнасці будуць перакрываць 3 і 6 мая.*

Як паведаміла кіраўнік прэс-службы УДАІ ГУУС Мінгарвыканкама **Таццяна Харлінская,** увечары ў гэтыя дні тут пройдуць рэпетыцыі выступлення роты ганаровай варты ў гонар Дня Перамогі. У сувязі з гэтым рух па праспекце ад вуліцы Янкі Купалы да вуліцы Казлова будзе перакрыты ў абодвух напрамках з 22.00 да 00.00.

ДАІ рэкамендуе кіроўцам і пасажырам грамадскага транспарту ўлічваць гэтую інфармацыю пры выбары маршруту.

ПА ЧУТКАХ І...

## Што замоўчваюць?

Баранавіцкія СМІ паведамілі пра надзвычайную сітуацыю на комплексе па вытворчасці свініны "Усходні".

Як сведчаць мясцовыя жыхары, комплекс ужо некалькі дзён знаходзіцца пад наглядам міліцыі. Вяскоўцы пагаворваюць аб масавым знішчэнні хворых свіней, а мяса гэтага вытворцы ўжо другі дзень адсутнічае на прылаўках фірменных магазінаў.

Журналістаў на свінакомплекс не пусцілі. Міліцыянт паведаміў ім, што там адбываецца дэзінфекцыя. За некалькі кіламетраў да тэрыторыі комплексу выстаўлены "блокпост" ДАІ.

АФІЦЫЙНА

## Нічога страшнага...

На комплексе "Усходні" ў Баранавіцкім раёне выяўлены рэпрадуктыўна-рэспіраторны сіндром свіней, падзеж жывёл у межах нормы. Пра гэта заявіў БелаПАН начальнік аддзела ветэрынарыі камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Брэсцкага аблвыканкама **Віктар Карповіч.**

*"Першыя хворыя жывёлы былі выяўлены 23 красавіка. Пасля правядзення даследаванняў устаноўлена, што ў свіней дадзенае вірусная захворванне. Праводзяцца мерапрыемствы па папярэджанні распаўсюджвання і ліквідацыі інфекцыі. За пагалоўем вядзецца пастаяннае клінічнае назіранне. Па даных на 2 мая новых выпадкаў захворвання ў свіней не зафіксавана",* — сказаў Віктар Карповіч.

ЛІКБЕЗ

## Дык чаму дохнуць свінні?

*Як сведчаць ветэрынарныя даведнікі, рэпрадуктыўна-рэспіраторны сіндром свіней (РРСС) — захворванне віруснай прыроды, якое з'явілася на пачатку 1990-х гадоў у Расіі. Праблема ў тым, што гэтае захворванне недастаткова знаёма ветэрынарам.*

РРСС (альбо "сіняе вуха") уяўляе сабой вірусную хваробу жывёл, якая выклікае нараджэнне мёртвых і нежыццяздольных парасят.

**Алена ДАВЫДАВА.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Можа, зараз чыноўніца стрымае сваё слова?

*Як жыве звольненая з працы настаўніца гісторыі Талькаўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці Наталля Ільініч?*



Тыя, хто ўзгадваўся у сувязі з яе звальненнем, атрымалі павышэнне. Былая начальніца Мінскага абласнога ўпраўлення адукацыі **Таіса Данілевіч** стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, а начальніца Пухавіцкага раённага аддзела адукацыі **Таццяна Чарнышова** перайшла на працу ў абласное ўпраўленне.

— Можа, зараз, калі ў іх кар'еры ўсё так добра склалася, яны праявяць велікадушша, — усміхаецца Наталля, — і дапамогуць мне вярнуцца ў школу. Толькі апошнія паўгода я не шукаю працу. А так, здаецца, не засталося той школы ў Пухавіцкім раёне, Асіповічах, Мінску, куды б я не звярталася, калі чула, што там патрэбны настаўнік гісторыі. Аб'ездзіла ўсе аб'яўкі. Але ўсюды сцэнарый уладкавання ў школу быў аднолькавы. Атрымаўшы маё рэзюмэ, казалі: "Усё добра, бяром". А праз пару дзён адмаўлялі: ужо быццам бы знайшоўся больш годны кандыдат. І мяне ставілі перад фактам: "Прабачце, гэта конкурс". А як было на самай справе — конкурс ці іншая прычына адмовы, дакладна не ведаю. Адчуванне было, што адміністрацыі школ за гэтыя пару дзён атрымлівалі нейкую інфармацыю. Мне падаецца, што сістэма па выштурхоўванні няўгодных працуе ў краіне без збою. Але я ўсё роўна спадзяюся вярнуцца ў школу.

Цяпер пачула, што маладая настаўніца, якая прыйшла на маё месца, сыходзіць. Начальніца Пухавіцкага РАА Таццяна Чарнышова, пры якой мяне звальнялі і якая калісьці вам у інтэрв'ю казала пра мяне: "***Учитель — хороший, значит, будет устроен на работу"***, пайшла на павышэнне. Думаю звярнуцца да яе. Можа, зараз яна стрымае сваё слова... Вельмі хочацца мне вярнуцца ў сваю школу, да вучняў, да любімай справы.

**— А дырэктар Меркуль новай пасады не атрымала?**

— Дырэктар у школе той жа. Не ведаю, магчыма, ёй будзе непрыемна са мной працаваць. Мне ж усё роўна, хто мой начальнік. Працу сваю я ведаю, буду яе выконваць сумленна.

**— А як выжываеце? Год таму казалі, што пачалі займацца рэпетытарствам, бо не толькі ў школу, увогуле нікуды не маглі ўладкавацца на працу. Прыватныя ўрокі кормяць?**

— Вучняў, на жаль, нямнога. У вёсцы рэпетытар не запатрабаваны. Езджу да дзяцей у Асіповічы і Мінск. Займаюся дыстанцыйным навучаннем. ГА "Таварыства беларускай школы" запрасіла мяне ў свой праект "Актыўная ацэнка", вучым настаўнікаў перадавой сучаснай методыцы, якая распаўсюджана ва ўсім свеце. Мы вучыліся ў палякаў, зараз перадаём вопыт нашым педагогам. Курс першы, пілотны. Усё ж такі корміць мяне гаспадарка, асноўны даход прыносіць карова. Прадаю малако, тварог, смятану, масла, сыр. Зараз пачынаецца дачны сезон, пакупнікоў хоць адбаўляй. Зімою прадукты вазіла ў Мінск, знаёмым.

Але самае галоўнае, што мне дапамагала, — людская салідарнасць, маральная і матэрыяльная падтрымка, якая пачалася пасля артыкулаў у "Народнай Волі".

Яшчэ да Новага 2013 года я атрымлівала грашовыя пераводы. Уяўляеце: паўтара года людзі памяталі пра мяне, хваляваліся за мой лёс! Былі такія, што кожны месяц з зарплаты дасылалі 50, 70, 100 тысяч рублёў. Я нават напісала ім лісты, што вельмі ўдзячна за падтрымку, але не магу злоўжываць іх дабрынёю. Я спраўляюся, рукі-ногі ёсць, здароўе, дзякуй Богу, не падводзіць. З некаторымі дабразычліўцамі потым сустракалася, адна жанчына, інжынер з Мінска, так тлумачыла мне сваё жаданне дапамагчы: *"Пасля выбараў, калі пачалася хваля арыштаў, звальненняў па палітычных матывах, я вельмі хацела не застацца збоку, дапамагчы, але не ведала як. Прачытала вашу гісторыю і выбрала вас".* Для яе гэта было ўвасабленнем нейкай справядлівай справы.

Хачу сказаць, што дзякуючы хвалі салідарнасці, якую распачала Народная Воля", я пазнаёмілася з неймавернай колькасцю неабыякавых, шчырых людзей! Атрымлівалі лісты нават з Паўночнай Карэі, ад беларускі, якая там працавала. Калі яна прыязджала ў Беларусь, дасылала мне пасылкі.

Мне напісала Святлана Алексіевіч, прыслала грашовы перавод. Я ёй патэлефанавала, завязалася сувязь. Цяпер езджу да яе ў госці. Вельмі люблю з ёю размаўляць. Святлана Аляксандраўна не толькі таленавіты пісьменнік, яна вельмі годны чалавек. Гэта сапраўднае шчасце — ведаць яе асабіста, мець магчымасць звяртацца да яе за парадай, за яе меркаваннем.

**— А як аднавяскоўцы сябе паводзяць? Былі ж такія, якія нават абражалі вас...**

— Ніхто асабліва не цікавіцца маімі справамі. Як раз такі ў вёсцы мне ніхто не дапамагаў. Праўда, купляюць у мяне малако, тварог. Былыя калегі па школе таксама мае пакупнікі, прыходзяць да мяне. І гэтым я задаволена. Хаця ніякага варожага стаўлення з іх боку ніколі і не было, адзінае, што тады пайшлі чуткі, маўляў, калі Ільініч не звольніцца, школу закрыюць. Але зараз наадварот ужо кажуць, што Талькаўская школа стане базавай, дзве суседнія — Блужскую і Суцінскую — аб'яднаюць з нашай, і вучні 10—11-х класаў будуць ездзіць у Тальку.

**— Наталля, ці няма ў вас жадання, прайшоўшы праз такія выпрабаванні, схавацца ад рэчаіснасці, перагледзець свае погляды на жыццё?**

— Канечне, не. Мая пазіцыя, погляды не памяняліся. Зараз я з'яўляюся сябрам Сойма Партыі БНФ. Адчуваю, што за маімі плячыма партыя.

Не шкадую пра тое, што было. Адзінае, не ведаю: калі б вярнуць усё назад, ці паехала б на Плошчу 19 снежня? Гэты ўчынак нічога добрага мне не прынёс, толькі тузін няшчасцяў. А я ўсё ж такі тады павінна была думаць і пра сваю дачку-студэнтку.

**— Дарэчы, а як у яе справы? Яна ўжо скончыла БДУ?**

— Так, скончыла і зараз працуе, прычым з вялікім захапленнем, проста гарыць на працы. Не хачу нічога казаць, каб не сурочыць.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

### ДАВЕДКА «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

З настаўніцай гісторыі вышэйшай катэгорыі Наталляй Ільініч дырэктар Талькаўскай СШ **Наталля Меркуль** не працягнула працоўны кантракт 27 студзеня 2011 года.

Дырэктара быццам бы не задаволілі прафесійныя якасці Ільініч, якая адпрацавала ў школе 26 гадоў. Наталля настойвала на тым, што яе звальненне з працы і адмова ў заключэнні новага працоўнага кантракта — гэта палітычна матываванае рашэнне дырэктара, што прэтэнзіі з боку Меркуль узніклі пасля таго, як у Ільініч дома адбыўся вобыск пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і падзей на Плошчы 19 снежня 2010 года. Справа ў тым, што Ільініч падчас выбарчай кампаніі збірала подпісы за кандыдата ад Партыі БНФ і ўвогуле ніколі не хавала сваёй грамадзянскай пазіцыі. У 2010 годзе, дарэчы, начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення адукацыі **Таіса Данілевіч** патрабавала ад Ільініч зрабіць выбар: альбо праца ў школе, альбо членства ў апазіцыйнай партыі. Наталля з Партыі БНФ не выйшла. Пасля звальнення ў 2011 годзе Наталля Ільініч спрабавала аднавіцца на працы праз суд. Аднак, нягледзячы на сведчанні калег Ільініч — настаўнікаў Талькаўскай СШ, былых выпускнікоў, бацькоў, суддзя Пухавіцкага раённага суда **Святлана Акуліч** у іску ёй адмовіла: на працу Наталля вярнуцца не змагла.

Дырэктар школы Наталля Меркуль і суддзя Пухавіцкага раённага суда Святлана Акуліч былі ўнесены ў спіс неўязных у краіны ЕС беларускіх чыноўнікаў за пераслед па палітычных матывах настаўніцы гісторыі Наталлі Ільініч.

SOS!

## Занадта раннія

*Сярэдні ўзрост "дэбюту" беларускіх школьнікаў у курэнні — 13,6 года, у знаёмстве з моцным алкаголем — 15 гадоў.*

Такая выснова ўтрымліваецца ў даследаванні ўзроўню спажывання псіхаактыўных рэчываў сярод вучнёўскай моладзі, праведзеным Акадэміяй паслядыпломнай адукацыі.

Было апытана больш за 3,3 тысячы навучэнцаў сярэдніх школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў ва ўзросце 16—17 гадоў з усіх рэгіёнаў краіны.

АСОБА

## Рафаэль Пуарэ распавёў, чаму з'ехаў з Беларусі

*Нагадаем, што знакаміты французскі біятланіст нядаўна датэрмінова сышоў з пасады галоўнага трэнера мужчынскай зборнай Беларусі.*

Па словах Пуарэ, якія перадае агенцтва "Франс-Прэс", беларускія спартсмены не жадаюць змяняць сістэму і менталітэт. Таксама біятланіст адзначыў, што ў нашай зборнай зусім няма моладзі і яму было нецікава.

Славуты спартсмен паведаміў, што мае прапановы па супрацоўніцтве з нацыянальнымі камандамі, але пакуль не можа гаварыць пра гэта.

ЗДАРЭННЕ

## Картэж пасольства Венесуэлы трапіў у ДТЗ. Ёсць пацярпелыя

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося па дарозе з Барысава ў Мінск яшчэ 26 красавіка. Але вядома пра яго стала толькі 2 мая.

Аўтамабіль, у якім знаходзіліся сакратары пасольства Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла Ёхана Караліна Рута і Херарда Эстрада Марцінес, сутыкнуўся з аўтамабілем, кіроўца якога паварочваў у левы бок і, па версіі следства, не прапусціў пасольскую машыну. Калі Херарда Эстрада Марцінес абышоўся нязначнымі пашкоджаннямі, то Ёхана Караліна Рута атрымала сур'ёзную траўму нагі. Яе даставілі ў шпіталь, дзе беларускія медыкі зрабілі ёй аперацыю.

Здарэнне з картэжам адбылося пасля таго, як у барысаўскай сярэдняй школе №17 прайшло культурнае мерапрыемства з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Венесуэлы спадара Амерыка Дыяса Нуньеса. Вучні 6—8-х класаў дэманстравалі прадстаўнікам амбасады творчы праект пад назвай "Венесуэла — такая далёкая, такая блізкая". Пасол выказваў сваю задаволенасць высокім узроўнем ведаў іспанскай мовы, культуры і традыцый Венесуэлы. Прадстаўнікі амбасады падарылі школьнікам кнігу Аўгуста Міхарэса "Вызваліцель" і альбом фотаздымкаў знакамітага фотамастака Карла Вейдмана "Венесуэла: зачараванне поўдня".

Пасольства Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла, дарэчы, мае даўнія стасункі з барысаўскай школай з іспанскай мовай навучання, і гэта была не першая іх паездка ў Барысаў.

У пасольстве "Народнай Волі" паведамілі, што вельмі ўдзячныя беларускім медыкам за дапамогу сваёй супрацоўніцы.

Справай ДТЗ займаецца Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці. Якія наступствы будуць для кіроўцаў аўтамабіляў, стане вядома пасля таго, як следчыя атрымаюць заключэнне медыкаў.

**Любоў ЛУНЁВА.**



ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Уроженка Минска выиграла в России престижный театральный конкурс «Золотая Маска»

*Надежда Кучер стала лучшей в номинации "Опера, женская роль". Организаторы Всероссийской театральной премии окрестили Надежду "маленьким чудом, которое в один момент стало в ряд с выдающимися певцами".*

Девушка была номинирована на премию "Золотая Маска" за роль детоубийцы Медеи в опере французского композитора Паскаля Дюсапена "Medeamaterial".

Надежда родилась в Минске, окончила тут музыкальное училище, работала артисткой хора в Большом театре оперы и балета. Позже она поступила в Санкт-Петербургскую консерваторию имени Римского-Корсакова на специальность "сольное пение", после чего получила приглашение на работу в Пермской опере.

